Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

Цана асобнага нумару 50 гр.

# Саха

Падпісная плата:
за год . . . . . 5 зл.
за паўгода . . 3 зл.
за тры месяцы 1 зл. 50 гр

Адрэс рэдакцыі і адміністр.
Вільня Вострабрамская 9/22

Рэдакцыя прыймае ў справах часопісі ад 11 — 1 што дня, апрача сьвят.

**БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЕ ГАСПАДАРКІ і КООПЭРАЦЫІ,**

**выдавецтва Цэнтральнага Саюзу Беларускіх Культурна-Асьветных і Гаспадарчых Арганізацыяў і Інстытуцыяў.**

№ 3 (7) | Вільня. Сакавік 1931 г. | Год II.

## Зьмест:



ДРУКАРНЯ Я. ЛЕВІНА, ВІЛЬНЯ, НЯМЕЦКАЯ 22.

Год 2-гі № 3 (7)

САХА

БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ І КООПЭРАЦЫІ

Вільня Сакавік 1931

# Аб барацьбе з сел.-гаспадарчым крызісам.

Барацьба з с.-гаспадарчым крызісам павінна вясьціся з розных бакоў. З аднаго боку — дзяржава з находзячыміся ў яе руках сродкамі, а з другога — селянін, рацыяналізуючы (разумна вядучы) сваю гаспадарку і арганізуючыся ў коопэратывы закупу і збыту.

Ужываныя дзяржавай дагэтуль сродкі барацьбы з крызісам былі галоўным чынам вывазныя прэміі на збожа і на некаторыя іншыя прадукты сельскай гаспадаркі, а таксама высокія мытныя стаўкі на пэўныя прадукты, вытвараныя ў краі. Так улетку мінулага году былі значна паднесены мытныя стаўкі за ўвоз спажыўных тукаў жывёліннага паходжаньня.

З мэтай барацьбы з тым-жа крызісам дзяржавай у апошнія часы прыняты крокі за зніжэньне цэнаў прамысловых прадуктаў. Праўда, аплата за карыстаньне паслугамі дзяржаўных прадпрыемстваў, як правоз па чугунцы, почта, ня зьнізіліся. Таксама ня зьніжаны цэны на прадукты дзяржаўнага манаполю. Усё гэта ў вялікай меры ляжыць на перашкодзе да значнага зьніжэньня цэнаў прамысловых прадуктаў.

Ня гледзячы на тое, што ўвоз спажыўных тукаў жывёліннага паходжаньня абмежан высокімі мытнымі стаўкамі, усёжтакі яны ў большай ці меншай меры ўвозяцца ў край.

За апошнія 5 месяцаў мінулага году было ўвезена ў Польшчу:

Рознае сланіны 7,717 квінталяў (за апошнія 3 месяцы ня было нічога ўвезена).

| | | |
|---|---|---|
| Шмальцу — — — — | 23056 | квінт. |
| Спажыўных сала і лою — | 476 | „ |
| Інш. спажыўнае тлустасьці | 747 | „ |
| Маргарыны — — — — | 318 | „ |

Увоз гэты ёсьць значна ніжэйшы, чым у папярэднія гады, прычынаю чаго зьяўляюцца высокія мытныя стаўкі.

Тым часам для ўвозу амістых насеньняў Урадам не ставіцца ніякіх перашкодаў, а для некаторых нават зроблены палёгкі (земляныя арэхі, сонешнік). Увоз алейнага насеньня ў 1930 годзе — 22292 тонн., а амярасьлінных — 38893 тонны. Як бачым цыфры вельмі паважныя. З аляістых насеньняў у вялікай колькасьці ўвозіцца льняное семя. У тым-жа 1930 годзе ўвезена было ў Польшчу льняногa семя 6548 тон, а вывезена ўсяго 1361 тона. Як бачым, увоз перавышае вываз на 5187 тонаў. Тым часам льняное семя, калі-б яно добра

аплачвалася, магло-б у дастатачнай колькасьці прадукавацца ў самой Польшчы, асабліва ў нашым краі, дзе лён мае для сябе адпаведныя кліматычныя ўмовы.

Шмат прывознага алейнага насеньня, або самых алеяў, можа быць выпрадукавана ў самым краі, або заступлена іншымі. Выняткам можа быць толькі какасовае і пальмовае насеньне, алей якіх патрэбен у хімічным промысьле і ня можа быць заменены іншымі тукамі. Але і тут можна даць раду, дапускаючы закуп гэтых алеяў вольных ад мыта толькі для тэхнічных патрэбаў.

Справу павышэньня мытных ставак падняў „Związek Organizacyj Rolniczych“ у сваім мэморыяле з 5 лютага 1931 г.

Паводле гэтага мэморыялу прапануецца:

Паднясеньне стаўкі мытнай на насеньне лёну, якая ў сучасны мамэнт выносіць усяго 1 зл. 30 гр., да 20 злотых ад 100 кіляграмаў. Далей прапануецца павышэньне мытных ставак і на іншыя алеістыя насеньні, а таксама і на расьлінныя тукі, маргарыну і штучнае масла, якіх пералічваць тут ня будзем. Таксама прапануецца налажыць адпаведны акцыз на маргарын і штучнае масла, вырабляныя ў Польшчы.

Калі толькі ўрадам, прапанаваныя ў вышэй памянёным мэморыяле, мытныя стаўкі будуць паднесены, то трэба спадзявацца, што цэны на льняное семя, а таксама і жывёлінныя тукі значна падымуцца. Усё гэта мела-б вялікае значэньне для нашага краю, бо як для культываваньня ў шырокім размеры лёну, так і для гадоўлі сьвіней у нас маюцца адпаведныя ўмовы. С. Б.

---

# Нарысы па коопэрацыі.

(Працяг).

## Разьдзел III.

## Рабочая спажывецкая коопэрацыя ў Англіі.

### 1) Зараджэньне коопэратыўнага руху.

Англія зьяўляецца тым краем, дзе ў пяршыню зарадзіўся коопэратыўны рух пад уплывам ідэй, пашыраных сацыялістамі-утапістамі. Першае коопэратыўнае таварыства на дэмакратычных падставах было адчынена ў Брайтоне ў 1827 годзе 20-мі рамесьнікамі, якія ўнясьлі па 5 фунтаў штэрлінгаў кожны і адчынілі краму.

Пасьля гэтага таварыства разьдзялілася на дзьве часткі: рыбакі, якія былі яго сябрамі, адыйшлі і арганізавалі свой рыбацкі коопэратыў, купіўшы на ўласнасьць карабель, рэшта набыла дзялянку зямлі і занялася агародніцтвам. Справы абодвух таварыстваў ішлі настолькі добра, што, напрыклад, таварыства агароднікаў дакупіла зямлі, а ўсе сябры яго мелі добрыя заработкі.

Разьвіцьцё брайтонскіх коопэратываў мела вялікія ўплывы на акружаючых, у выніку чаго было адчынена яшчэ некалькі коопэратыўных крамаў.

Што-ж датычыцца Оуэна, то ён спачатку аднасіўся даволі роўнадушна да коопэратыўнага руху, ня бачачы ў ім тых элемэнтаў, якія былі неабходны для перааргінізацыі грамадзянства і перавыхаваньня людзкасьці. І толькі тады ён зьвярнуў увагу на спажывецкія таварыствы, калі пераканаўся, што дзеяльнасьцю гэтых аматараў-крамнікаў кіруе вера ў яго грамадзкую ідэю.

Да гэтых часоў рух сільна разросься.

Да канца 1829 году было ўжо 180 коопэратываў, а да канца 1830 — больш 500. Гэта быў кульмінацыйны пункт руху тых часоў. Потым хваля спадае і да 1835 году зыходзіць на нішто.

Чым-жа быў выкліканы ўпадак коопэратываў? Каб адказаць на гэта пытаньне, трэба ўзяць пад увагу тое, што як раз у гэтыя часы прамысловая рэвалюцыя дабівала дробнае рамясло, ператвараючы рамесьнікаў у пралетарыят.

Адзіны ратунак бачылі рамесьнікі ў арганізацыі коопэратываў розных формаў—спажывецкіх, вытворчых і г. д. І мы запраўды бачым, што асноўную масу коопэратараў тых часоў складалі рамесьнікі.

Коопэратыўны рух тых часоў ня меў яшчэ выпрацаваных практыкай цьвёрдых асноў — ён хістаўся, пераходзячы ад аднае скрайнасьці да другой: у пэўных выпадках коопэратары, пад уплывам ідэі Оуэна, мелі на мэце перааргінізацыю грамадзянства, у іншых выпадках яны ўпадалі ў скрайні практыцызм і вялі свае справы, як звычайныя гандляры. Неспрыяючымі абставінамі для разьвіцьця коопэратыўнага руху былі і тыя ўмовы, што, паводле ангельскага праваўства, коопэратывы не карысталіся правамі юрыдычных асоб, г. зн. ня мелі права ад свайго імя набываць маемасьці і не маглі выступаць на судзе, а павінны былі рабіць усё гэта ад імя паасобных сваіх сяброў. Такое юрыдычнае палажэньне коопэратываў не магло, зразумела, не адбіцца ад'емна на іх разьвіцьці.

Некаторыя, як напр. Клёнг—прычыну ўпадку коопэратываў бачаць у нясумленнасьці арганізатараў, не практычнасьці іх і г. д.

Магчыма, што ўсё гэта мела месца ў жыцьці коопэратываў тых часоў, але галоўная прычына ўпадку заключаецца ня ў гэтым. Гэта прычына, як зусім слушна кажа Хэйсін — „заключаецца галоўным чынам у соцыяльным характары коопэратываў 1827—1834 г. г. Ремесная вытворчасьць не магла затрымаць разьвіцьця буйнае прамысловасьці і павінна была згінуць. Коопэратывы не маглі затрымаць эканамічнага разьвіцьця і выратаваць дробную прамысловасьць".

Першапачатковы коопэратыўны рух упаў аднак дзеля таго, каб праз некалькі гадоў паўстаць ужо на новых, больш цьвёрдых падставах. Арганізатарам яго была рабочая кляса.

### 2) Рочдэльскія піонэры і іх прынцыпы.

Коопэратыўныя хвалі не прайшлі без усялякага сьледу ў працоўных масах Англіі. Палажэньне гэтых масаў не палепшылася — безрабоцьце ператварылася ў хранічнае зьявішча і перадавыя пласты рабочае клясы ўзмоцнена заняліся пытаньнем аб тым, якім спосабам палепшыць матэрыяльнае палажэньне пралетарыяту ў межах існуючага ладу сваімі ўласнымі сіламі.

Само сабой разумеецца, што пытаньні аб безрабоцьці, агульных умовах жыцьця рабочае клясы і г. д. былі агульнай тэмай на рабочых сходах і сярод тых, хто астаўся за межамі фабрык і заводаў.

У канцы 1843 г. на адным з такіх сходаў былых рабочых баваўнянай фабрыкі ў Рочдэлі абгаварываліся гэтыя пытаньні і сабраныя, паводле слоў Холіока, дайшлі да вываду аб неабходнасьці — „аддаленьня, як непатрэбных—пасярэднікаў, гандляроў, фабрыкантаў і капіталістаў".

Зразумела, што аднае такое пастановы было мала дзеля таго, каб гэтыя элемэнты адыйшлі. Хаця-б для частковага зьдзейсьненьня гэтых плянаў шляхам арганізацыі свайго ўласнага гандлю, прамысловасьці і г. д., рабочым перадусім патрэбны былі сьродкі, якіх, зразумела, ня было. Аднак энэргія ініцыятараў ня слабла, зьбіраліся сьродкі і калі яны дайшлі да вядомай сумы, было пастаноўлена адчыніць спажывецкую краму.

На наступным агульным сходзе, на які зьявіліся арганізатары гэтае справы ў ліку 28 асоб, быў аканчальна прыняты статут таварыства, якое 28 кастрычніка 1844 г. было зарэгістравана пад назовам „Рочдэльскае таварыства справядлівых піонэраў". — Паказаная намі дата важна ў тым значэньні, што з гэтага часу спажывецкая коопэрацыя стала на творчы грунт, прыняўшы зусім позытыўныя прынцыпы. Яны да гэтага часу ляжаць у аснове спажывецкай коопэрацыі.

Застасаваньне рочдэльскіх прынцыпаў спажывецкай коопэрацыяй зьяўляецца асновнай адзнакай, паводле каторай яе лёгка можна адрозьніць ад іншых аб'яднаньняў некоопэратыўнага тыпу.

Вось дзеля чаго да гэтага часу яны карыстаюцца такой славай і вось дзеля чаго грунтоўнае пазнаньне іх і застасаваньне ў жыцьці зьяўляецца абавязкам кожнага коопэратара.

Перадусім рочдэльцы паставілі сабе некалькі канкрэтных заданьняў:

1) Адчыніць краму для прадажы спажывы, вопраткі і г. д.

2) Купіць ці выбудаваць дамы, у якіх маглі-б памяшчацца сябры, якія хочуць памагаць адзін аднаму ў паляпшэньні свайго хатняга жыцьця.

3) Пачаць вытворчасьць неабходных таварыству прадуктаў дзеля таго, каб даць працу сваім безработным сябром ці тым, якім зьменшана заработная плата.

4) З мэтай паляпшэньня матэрыяльнага палажэньня і павялічэньня маемасьці сяброў у будучыне набываць, ці арэндаваць зямлю для апрацоўкі яе безработнымі сябрамі ці тымі, у якіх заработкі нясталыя.

5) Частку даходаў аддаваць на арганізацыю школ, бібліятэкчытальняў... Памагаць тым таварыствам, мэта якіх не пярэчыць мэтам справядлівых піонэраў.

Такім чынам ужо з гэтых заданьняў, якія паставілі сабе рочдэльскія піонэры відаць, што яны ахапілі амаль ня ўсе формы коопэратыўнага руху.

У гэтым выпадку мы затрымаемся на іх уставах ці прынцыпах, якія былі пакладзены рочдэльцамі ў аснову спажывецкай коопэрацыі

і, якія адыгралі такую аграмадную ролю ў гісторыі коопэратыўнага руху.

Вельмі добры выклад іх мы знаходзім у кніжцы Лежнева „Рочд. т-ва“, скуль мы ўпоўнасьці іх і бяром:

Прынцыпы, якія прынялі піонэры, — кажа Лежнев — на першы пагляд вельмі простыя і як быццам нічога асаблівага ня маюць, аднак, калі добра ўдумацца, дык лёгка заўважыць, што ўсе яны б'юць у адзін пункт: яны скіраваны супроць засільля капіталу і да таго, каб аб'яднаць усіх спажыўцоў, інакш кажучы, увесь народ да дружнай і самастойнай працы“.

Прынцыпы гэтыя такія:

1) „Перадусім, сябры самі павінны стварыць свой супольны капітал—не пазычаючы яго дзе небудзь, а зьбіраць яго за пасярэдніцтвам уласных паёў, каб кожны прыняў у гэтым удзел і такім чынам паказаў сваю шчырасьць у вядзеньні справы ўласнымі сіламі.

2) Пай кожнага сябра павінен быць невялікі і яго можна ўнасіць часткамі, каб нават найбяднейшы мог прыняць удзел у агульнай справе.

3) Колькасьць паёў кожнага сябра павінна быць абмяжавана, каб таварыству не пагражала залежнасьць ад тых, хто мае магчымасьць набыць шмат паёў.

4) На паявы капітал даход не налічваецца, а толькі выплачваецца вядомы процэнт, які магчыма атрымаць у кожным банку і кожнай касе ашчаднасьці. Гэты прынцып паказвае адразу, што таварыства творыцца не для зыску, як гандаль і не жадае прыцягнуць да сябе капіталістаў, шукаючых такога.

5) Кожны сябра мае толькі адзін голас, колькі-б паёў ён ня ўнёс. Гэта творыць роўнасьць усіх сяброў: кожны—хай гэта будзе багата ці бедны чалавек, мужчына ці жанчына—атрымлівае роўнае права распараджацца ў агульнай справе, а ў тых, хто мае шмат паёў, адбіраецца магчымасьць шкодзіць таварыству.

6) Тавар прадаецца найлепшай якасьці, поўнай вагі і меры. Тут ізноў інтарэсы спажыўца на першым пляне. Спажыўцоў збаўляецца ад брахні і ашуканства, якія пануюць у прыватным гандлю, спажывец атрымлівае прадукты добрай якасьці.

7) Усё купляецца і прадаецца толькі за гатоўку. Крэдытаваць любяць гандляры: гэтам яны прыцягваюць беднага спажыўца і трымаюць яго ў сваіх капцюрах, абкрадаючы яго, даюць благі тавар і па дарагой цане. Крэдыт-вораг беднага. Ён вораг і спажывецкага таварыства. Таварыства, якое дае на крэдыт, заўсёды будзе змушана і само прасіць крэдыту, купляючы ў доўг і такім чынам само пападзе ў залежнасьць ад прыватнага капіталу. Гэта залежнасьць заўсёды вельмі дорага абходзіцца таварыству. Піонэры ведалі, як шмат папярэдніх таварыстваў згінула праз крэдыт. І яны назначылі вялікія штрафы за прадажу ці куплю ў крэдыт.

8) Тавар трэба прадаваць па сярэдня рынковай цане, па якой прадаюць прыватныя гандляры, не даражэй, але і не таней. Т-ва заінтэрасавана ў тым, каб прыцягнуць пэўных асоб на запраўдных сяброў, якія разумеюць яго мэты і спачуваюць ім, а не такіх, якіх заманула таннасьць. Таннасьць не патрэбна! Ня трэба зьніжак-гра-

ша ці двух у параўнаньні з цэнамі суседняй крамы — няхай гэтыя грашы ашчаджаюцца і ператвараюцца на канец году ў тысячы і дзесяткі тысячаў злотых, яны-ж патрэбны т-ву, яно павінна расьці; трэба аддаліць ня толькі дробных гандляроў, але і буйных, трэба самім ці ў супалцы з іншымі таварыствамі стварыць вытворчасьць хлеба, мыла, масла і г. д. Яно павінна дбаць аб патрэбах сваіх сяброў, аб іх асьвеце, аб бібліятэках і чытальнях, аб выдачы дапамог у выпадку патрэбы, ці калі сябра страціць працаздольнасьць. На ўсё гэта патрэбны вялікія грамадзкія капіталы, якіх не магчыма сабраць толькі сяброўскімі складкамі. Іх дае прадажа па рынковай цане. Такая прадажа дасягае яшчэ аднэй мэты: знаходзяцца крыніцы, скуль можна пакрываць страты, якія заўсёды могуць быць у гандлю. Т-вы, якія прадавалі па цэнах ніжэй рынковых, ня толькі пазбаўляліся магчымасьці зьбіраць капіталы, але аказаліся ў вельмі цяжкім палажэньні, нават банкрутавалі па розных прычынах, напрыклад, няўдачнай куплі тавару.

У іх ня было чым папоўніць стратаў, а сябры ня вельмі ахвотна дастаюць грошы на гэта з сваіх кашалькоў,—большасьць рашае „адыйсьці далей ад грэху“ і т-ва разваліваецца.

Прадажа па рынковых цэнах робіць т-ва сільным і крэпкім.

9) Доход, з адлічэньнем ад яго некаторай часткі грамадзкіх капіталаў,—трэба дзяліць паміж тымі, хто купляе тавары адпаведна да іх закупаў: хто больш купіць тавараў у коопэратыўнай краме — дастае большую частку даходу. Гэтага вымагае справядлівасьць. Вось-жа даход ствараюць тыя, хто купляе тавар, і хто больш купляе, той у большай меры дапамагае росту даходу. Няхай ён і больш дастае. Т-ва вяртае яму частку яго працоўных грошы, якія астаюцца ў краме і чым больш ён іх там пакінуў, тым вярнейшым ён быў свайму таварыству, дык больш яму і вяртаецца.

Такім чынам даход дзеліцца адпаведна ўдзелу кожнага сябры ў агульнай справе і незалежна ад іх капіталаў (паёў), як гэта звычайна робіцца ў капіталістычных прадпрыемствах. Тут капітал аддаляецца ад удзелу ў падзеле, астаецца без магчымасьці нажывацца на гандлю, а ён компэнсуецца, як было сказана вышэй, тым, што дастае пэўны, вельмі невялікі процэнт.

Гэта падкрэсьлівае і ўзмацняе некапіталістычны характар таварыства. У ім капітал не пануе. Пануе спажывец. Даход ідзе на карысьць толькі гэтага аб'яднанага ў яго патрэбах спажыўца.

10) Сябры павінны помніць заўсёды, што спажывецкае таварыства не крама, а вялікая грамадзкая справа, калыска новага жыцьця, збудаваная на справядлівых падставах. Дзеля гэтага таварыства ткачоў і атрымала назоў „Таварыства справядлівых піонэраў“. Яны былі прыкладам. Яны знаходзілі новыя шляхі, прыступілі да вялікага будаўніцтва і заклікалі да сябе міліёны такіх самых бедных працаўнікоў. Гэтыя міліёны трэба было прасьвяціць, пазнаёміць з коопэрацыяй і яе мэтамі, прабудзіць у іх тую-ж веру і тыя-ж імкненьні, якія гарэлі ў сэрцах піонэраў.

Адсюль тэза:

11) Дбаць аб асьвеце сяброў таварыства. Асьвета ў значнай меры цэнна і сама па сабе, але яшчэ прыймае большае значэньне ў вачах сацыяліста коопэратара" (Лежнев).

Гэта галоўныя прынцыпы, якія былі пакладзены рочдэльскімі ткачамі ў аснову коопэратыўнага будаўніцтва, прынцыпы, якія ім стварылі сусьветную славу і якімі да гэтых часоў кіруецца спажывецкая коопэрацыя.

Справа, пачатая рочдэльскімі піонэрамі, знайшла для сябе цьвярды грунт і стала быстра разьвівацца.

Ужо ў 1851 годзе ў аднэй Шотляндыі налічваецца 130 таварystваў, арганізаваных па рочдэльскаму прыкладу. Шырокае разьвіцьцё ініцыятывы і самадзейнасьці першых коопэратываў давяло да таго, што яны часта ладзілі зьезды сваіх прадстаўнікоў, на якіх абгаварываліся пытаньні аб тым, як лепш наладзіць пачатую справу і якім спосабам яе расшырыць. На адным з такіх зьездаў паўстала думка аб неабходнасьці стварэньня гуртовай коопэрацыі.

Піонэры коопэрацыі дайшлі да таго заключэньня, што няма ніякага сэнсу кожнаму таварыству паасобку купляць тавары ў прыватных гуртавікоў і што шмат будзе выгадней, калі коопэратывы аб'яднаюцца — самі арганізуюць гуртовыя склады, якія павінны дастаўляць тавары сваім коопэратывам.

І запраўды, у 1863 г. арганізуецца такое таварыства пад назовам „Спажывецкае Т-ва гуртовай прадажы Паўноч. Англіі". У 1872 годзе гэта арганізацыя перайменавалася ў „Коопэратыўны гуртовы гандаль" з пашырэньнем сваей дзеяльнасьці на ўсю Англію за выключэньнем Шкоцыі, дзе ў 1869 годзе было закладзена самастойнае коопэратыўнае таварыства.

Сябрамі гуртовых коопэратыўных таварystваў, як ужо ўспаміналася, зьяўляюцца паасобныя коопэратывы ў цэлым, г. зн. так-званыя юрыдычныя асобы.

Капіталы такіх таварystваў стварыліся шляхам складак з боку тых коопэратываў, якія ўвайшлі ў лік сяброў, пры чым кожны коопэратыў уносіў пай адпаведна колькасьці яго сяброў і акрэсьліваўся на агульным сходзе закладчыкаў. Гуртовыя таварыствы таксама прытрымліваліся ў сваей дзеяльнасьці коопэратыўных прынцыпаў, выпрацаваных рочдэльцамі: прадаць толькі за гатоўку, і ў канцы году вярнуць сваім сябром частку даходу адпаведна да іх закупаў. Асаблівасьцю, адзначаўшай гуртовыя коопэратывы ад звычайных, зьяўляецца тое, што на агульным сходзе сяброў такога гуртовага таварыства—кожны коопэратыў меў у сваім распараджэньні колькасьць галасоў, прапарцыянальна колькасьці ўнесеных ім паёў.

Гэта апошняе зусім зразумела, калі ўзяць пад увагу, што сама колькасьць паёў, якія ўносяцца пэўным коопэратывам у гуртовае таварыства,—акрэсьліваецца колькасьцю яго сяброў. Чым больш сяброў у пэўным коопэратыве, тым большую сілу ён прадстаўляе і тым большая вага яго павінна быць на агульным сходзе прадстаўнікоў усіх коопэратываў. Калі-б справа была пастаўлена інача, калі-б,

напр., усе коопэратывы карысталіся на агульных сходах аднолькавымі правамі, тады мог-бы здарыцца такі выпадак, калі меншасьць скоопэратызаваных сяброў дыктавала-б волю большасьці.

На зьезьдзе маглі-б аказацца ў большасьці прадстаўнікі дробных коопэратываў, маючых нязначную колькасьць сяброў і пры галасаваньні атрымалі-б перавагу над рэштай коопэратываў, якія маюць большасьць сяброў.

Дзеля таго, каб такое зьявішча не магло здарыцца і ўведзена паказанае вышэй правіла, якое ў поўнасьці адказвае дэмакратычнаму духу рочдэльскіх прынцыпаў.

**Ф. Акінчыц.**

(Працяг будзе).

# Дагляд за цельнымі каровамі

Пасьпеху ў гадоўлі дойнае жывёлы можна чакаць толькі тады, калі за жывёлаю будзе сталы і адпаведны дагляд. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на цельныя каровы.

Карову, пасьля таго, як пабегала, трэба памясьціць у спакойнае мейсца і накарміць добрым кормам, бо падчас беганьня карова мала есьць і калі мы не заспакоім яе голаду, дык гэта лёгка можа адбіцца на ўдою. Карміць трэба добрым лёгка страўным кормам і ў такой колькасьці, каб потым не паўстала ненармальнасьць у траўленьні, што кепска можа адбіцца як на ўдою, так і на зачынаючымся плодзе. Асабліва трэба асьцерагацца карміць цельныя каровы сапсутым кормам.

Зразумела, што цельная карова павінна быць забясьпечана ад усялякага роду ўразаў.

Вельмі пільнае ўвагі патрабуюць каровы ў пазьнейшую пару цельнасьці—гэта на 6—8 месяцы, калі яны лёгка могуць скінуць (перадчасна ацяліцца). У разе няшчаснага выпадку, калі карова скіне, трэба яе зараз-жа перавясьці ў мейсца асобнае ад рэшты кароў, а мейсца, дзе стаяла карова, вычысьціць і выдэзынфікаваць, бо выкідыш можа быць заразны і зараза можа перанясьціся на іншыя каровы.

Нашы каровы звычайна запускаюцца вельмі задоўга перад цяленьнем, але ёсьць такія высокадойныя каровы, якія дояцца аж да самага цяленьня. Для добрага здароўя каровы і добрых будучых удояў карысна, калі карова запусьціцца за 3—4 тыдні перад ацяленьнем. З гэтай мэтою высокадойныя каровы пачынаюць запушчаць за два месяцы перад даеньнем. Дзеля гэтага карове перастаюць даваць малакагонны корм і паступова радзей яе дояць (спачатку, замест трох разоў, дояць два разы, а пасьля адзін раз у дзень і нарэшце праз дзень).

Набліжаючаеся цяленьне лёгка можна пазнаць па вонкавых прыкметах. Галоўныя прыкметы наступныя: вымя наліваецца, карова становіцца ацяжэлай, расплодавыя органы набракаюць і з іх выця-

кае цягучая сьлізь. У дзень перад самым пародам карова становіцца неспакойнай, часта мочыца, лажыцца, ізноў устае і аглядаецца на бакі. За прыкметамі гэтымі гаспадар павінен пільна сачыць, каб у час мог прыйсьці з дапамогаю.

Паказаўшыся падчас пароду пладовы пузыр, у якім знаходзіцца цялё, ніколі ня трэба перадчасна разрываць, а пачакаць пакуль цялё цалком ня выйдзе, бо знаходзячыся ў пладовым пузыры цялё найлягчэй можа выйсьці. За тое, калі пладовы пузыр застанецца цэлым пасьля ацяленьня, то трэба яго зараз-жа разарваць і сьцягнуць з целяці, каб тое не задушылася.

Для таго, каб целяці адразу-ж у лёгкія папала паветра і яно пачало дыхаць, трэба ноздры прачысьціць ад сьлізі і прадмухаць. Бывае часта, што цялё народзіцца яшчэ жывое, але не выяўляе ніякага руху і калі яму не ачысьціць і не прадмухаць ноздраў, то яно можа згінуць.

Інагды бывае, што карова перад ацяленьнем вытварае шмат малака і калі яго ня здойваць, то можа паўстаць запаленьне вымя. Часьцей гэта бывае ў маладых кароў з першым цялём. Звычайна такія каровы даюць шмат малака. Здойваньне, вытварыўшагася ў вялікай колькасьці перад ацяленьнем малака для каровы карысна, але не карысна для целяці, якое потым не дастане малодзіва. Малодзіва патрэбна для целяці, бо ўплывае яно развальняюча і ачышчае страўны праход ад першапачатковага калу, які ўтварыўся яшчэ падчас перабываньня плоду ў нутры маткі.

Зараз пасьля ацяленьня карове трэба даць аблізаць цялё. Лізаньнем карова зганяе сьліз з целяці і робіць як-бы масаж, дзякуючы якому да скуры целяці прылівае больш крыві, а гэтым аграваецца паверхня і цялё хутка сохне. Калі карова па нейкай прычыне ня хоча лізаць целяці, то трэба цялё пасыпаць вотрубямі або сольлю. Калі-ж і гэта не памагае, то не астаецца нічога рабіць, як толькі самому выціраць цялё сухой ганучкаю, пакуль тое цалком не абсохне. Адначасна з гэтым, калі пуповы шнур пры цяленьні абарваўся, трэба тады змазаць яго 1% (проц.) рошчынам карбалёвае кісьлі або лізолю. Дэзынфэкцыя пуповага шнура абавязкова патрэбна, бо праз яго да крыві могуць дастацца розныя бактэрыі і выклікаць тую ці іншую хваробу, як напр бягунку і інш. Калі-ж пуповы шнур сам не абарваўся, тады трэба яго перавязаць чыстай ніткай на аддалені 1-го цэнтымэтра ад скуры, а потым у водступе яшчэ колькі цэнтымэтраў яшчэ раз перавязаць, а рэшту адрэзаць і канец замазаць ёдам.

Апрача гэтага цялё трэба падвясьці да вымя і даць яму нассацца малодзіва. **С. А.**

# Кармовыя буракі.

Добра ведзеная гаспадарка дойнае жывёлы вымагае таго, каб жывёла на зіму была ў дастататачнай колькасьці забясьпечана сачыстым кормам. Найадпавяднейшым такім кормам у зімовую пару зьяўляюцца кармовыя буракі. Аднак, гэтым каштоўнасьць буракоў, як корму, не абмежваецца. Буракі адносяцца да т. зв. малакагоннага корму, а гэта знача, што пры кармленьні імі каровы даюць больш малака, чым пры кармленьні іншым кормам гэтаю ўласьцівасьцю не адзначаючымся, хоць-бы той апошні меў такую-ж колькасьць пажыўных складнікоў.

Да буракоў, як сачыстага корму, нельга прыраўняць іншыя вадзяністыя кормы, як напр. адпадкі цукраварскія, браварскія і інш., бо вада гэтых апошніх ня можа дараўняцца да вэгэтатыўнае вады ў буракох.

Апрача таго, што буракі зьяўляюцца добрым кормам, сяўба іх дае яшчэ і наступныя карысьці:

1. Пры адпаведнай глебе, добрай апрацоўцы і гнаеньні, буракі даюць з тае самае плошчы ў 2 разы і больш пошарных прадуктаў, чым збожжа; 2) поле пасьля іх застаецца чыстым ад пустазельля, якое ёсьць адною з галоўных прычын слабых ураджаяў на нашых землях (на вельмі засьмечаных пустазельлем палях буракоў няма карысьці і сеяць); 3) буракі па сабе пакідаюць поле ў добрым стане пад любую расьліну.

Кармовыя буракі ўдаюцца на ўсіх глебах, за выключэньнем лёгкіх пяскоў. Нават іх можна сеяць і на добра разробленых нізінных торфах (гэтыя торфы знаходзяцца часьцей паблізу рэк і маюць у сабе вапну). Добрага ўраджаю буракоў можна спадзявацца толькі на глебах глыбокіх, выгнаеных, маючых у сабе дастатак вапны і вільгаці.

З прычыны таго, што буракі патрабуюць шмат працы, то выгадней пад іх адводзіць глебу лепшую, бо ў такім разе атрымліваюцца шмат вышэйшыя ўраджаі пры тэй самай працы.

Абрабляць зямлю пад буракі трэба вельмі старанна. Калі буракі маюць быць пасеяны пасьля збажовых, то трэба зараз-жа пасьля збору апошніх плытка загараць іржышча. Пасьля воркі трэба зараз-жа поле баранаваць, вальцаваць, каб стварыўшыяся груды былі добра раздроблены, каб такім чынам утварыўся тонкі пласт пульхнае зямлі. Такі пласт добра бароніць глебу ад высыханьня, а ў дадатак да таго загаранае насеньне пустазельля прарасьце і будзе зьнішчана далейшым баранаваньнем, або воркаю.

Араць на зіму пад буракі трэба глыбей, чым пад збажыну. Глыбіня воркі павінна быць ня менш 20 цэнтым. (5 вяршкоў). Калі ворны пласт плыткі і можа быць пры глыбейшай ворцы выгарана няплодная зямля, тады лепей араць плытчэй, а за плугам пушчаць глебапаглыбляч.

Калі-ж прыходзіцца па тых ці па іншых прычынах гараць вясною, то, каб за шмат не перасушыць глебу, трэба гараць плытчэй, а за плугам пушчаць глебапаглыбляч і зараз-жа забараноўваць. Як-

бы мы не стараліся, пры веснавой ворцы глеба значна перасыхае, а таму і зьменшаюцца ўраджаі, асабліва ў сухое лета.

Калі глыбокая ворка праведзена ў час — гэта знача яшчэ ў восені, то вясною трэба поле як найхутчэй пабаранаваць, калі глеба цяжкая і на ёй творыцца скарынка. На глебах лёгкіх даволі загадзя вясною праехаць поле валакою (валака — гэта некалька злучаных між сабою брускоў дзеравяных або зялезных); замест валакі можна раўняць поле пераверненай бараною.

Пазьней, перад пасевам, поле добра разрабляецца культыватарам або спружыноўкай і баронамі.

Пад буракі трэба глебу добра ўгнаіць хлеўным гноем. Буракі, у адрозьненьні ад бульбы, вымагаюць зараз-жа па сваім узыходзе належнай колькасьці здольных да ўспрыняцьця расьлінай пажыўных матэрыялаў у глебе. А дзеля таго, лепей калі гной заворваецца з восені і на паверхні няма выгаранай сысподу няплоднай зямлі. Веснавое заворваньне гною гарэй у тых глебах, у якіх ён ня можа хутка раскладацца (глебы цяжкія, клейкія і безвапенныя).

Штучныя гнаі таксама карысна ўплываюць на рост буракоў. Найбольш карысным з фосфарных гнаёў аказаўся супэрфасфат. Супэрфасфатам лепей гнаіць два разы: адзін раз загадзя вясною або ў восені, а другі раз падчас пасеву. З азотных гнаёў добры ўплыў на ўраджай буракоў робіць Чылійская салітра. Даваць яе трэба лепей часьцей, але ў меншых колькасьцях. Добра даць адну частку ў часе пасеву, другую — пасьля ўзыходу буракоў і трэцюю — пасьля прарываньня.

Буракі вельмі шмат патрабуюць паташу, асабліва тады, калі яны сеюцца па сабе, або пясьля бульбы, ці калі поле мала пагноена хлеўным гноем. Соль паташовую нельга высяваць беспасярэдня перад сяўбою (саджэньнем), бо можа пашкодзіць прарастаючым расьлінкам. З іншых паташовых гнаёў вельмі добры ўплыў на ўраджай буракоў робіць к а і н і т, які таксама нельга даваць беспасярэдня перад сяўбою. Лепш пагнаіць ім яшчэ ўвосені, або загадзя вясною. На цяжкіх глебах шмат даваць каініту ня можна, бо ён псуе добрую будову глебы.

Дзеля таго, што буракі растуць доўга, карысна было-б іх як найраней сеяць, але не заўсёды гэта можна рабіць, бо маладым расьлінкам шкодзяць прымаразкі. З гэтае прычыны ў нас высяваюць буракі пасьля пасеву раньняе ярыны.

К а р м о в ы я б у р а к і м о ж н а с е я ц ь і с а д з і ц ь р а с а д а й. Расадай лепш садзіць тыя сарты буракоў, у якіх корань мае кулявідную форму, бо прыпадковае пашкоджаньне канца карэньчыка не адбіваецца на росьце іх. На цяжкіх глінiстых глебах найлепш садзіць расадай, бо ў такіх глебах прарастаючай расьлінцы цяжка выбрацца на верх. Расада буракоў вырошчваецца на асобных градках, як і капусная. Пры пасадцы трэба капаць такія ямкі, каб корань цэлы мог зьмясьціцца ня згінаючыся. Пасьля пасадкі трэба буракі паліць вадою і добра яшчэ наўкола расьлінак прыкрыць зямлю мокам, каб ня даць выпарывацца вільгаці з зямлі.

Калі кармовыя буракі сеюцца ручным спосабам, то на добра прыгатаванай перад гэтым глебе робяцца значнікам (значнік — такія

вялікія граблі) радкі. Адлегласьць паміж радкамі павінна быць 50—60 цэнтымэтраў. На лепшых глебах адлегласьць паміж радкамі мае быць большая, а на горшай—меншая.

У зробленыя значнікам раўчукі, кладуцца клубочкі насеньня ў аддаленьні адзін ад другога 5—6 цэнтымэтраў, потым насеньне загортываецца зямлёю. Раўкі павінны быць зроблены такое глыбіні, каб насеньне папала ў зямлю ня глыбей як $2^1/_2$—3 цэнтымэтры. На лёгкіх глебах насеньне можа быць засыпана трошкі глыбей, чым на цяжкіх.

Ёсьць яшчэ іншы спосаб пасеву, т. зв. кучковы. Пры гэтым спосабе радкі мецяцца значнікам уздоўж і поперак і ў месцах, дзе гэтыя радкі перараэаюцца, выкопваецца ямка, укідаецца некалькі клубочкаў насеньня і засыпаецца землёю. Пры гэтым апошнім спосабе прарываньне трэба рабіць раней. Часта насеньне перад сяўбою мочыцца.

Пры пасадцы буракоў расадай выходзіць каля $1^1/_2$—2 кілёгр. на гэктар; пры сяўбе ў радкі—каля 16 кілёграмаў, а пры кучковым пасеве каля 10 кілёграмаў.

Бывае часта, што пасьля пасеву пойдуць сільныя дажджы і пасьля ўтворыцца скарынка (на глебах цяжкіх, клейкіх), у такім разе скарынку трэба абавязкова зьнішчыць. Скарынка разьбіваецца кальчастымі або зубатымі вальцамі, а таксама плыткім баранаваньнем. Баранаваньне можна паўтарыць аж да прарываньня буракоў. Але ўсе гэтыя работы трэба рабіць так, каб маладыя расьлінкі ня былі пашкоджаны ці павырываны.

Буракі, пасьля пасеву, узыходзяць праз 12—14 дзён, а дзеля гэтага часта бывае патрэбна прапалоць іх і да ўзыходу. З гэтай прычыны высяваюць разам з бурачным насеньнем ячмень або авёс, якія хутка прарастуць і пакажуць радкі.

Дагляд за пасевам буракоў палягае на тым, каб поле было чыстае ад пустазельля і зямля між радкамі была ўсьцяж успульхнена. Дасягаецца гэта частым матыкаваньнем або праяжджаньнем ручным ці конным палольнікам (плянэтам).

Калі буракі падрастуць і будуць мець 3—4 лісточкі, то трэба іх прарваць, пакідаючы адну расьлінку ад другое на 20—35 цэнтымэтраў. Прарываньне лічыцца вельмі важнай працай і яе трэба рабіць умела і не пазьніцца. Пасьля прарываньня поле матыкуецца яшчэ раз, пасьля чаго буракі пачнуць шыбка расьці і закрываюць прасторы між радкамі, дзеля чаго далейшае матыкаваньне ўжо ня патрэбна. Звычайна больш трох матыкаваньняў і ня робіцца.

Адменаў кармовых буракоў ёсьць шмат і адрозьніваюцца яны ад сябе ня толькі выглядам, але і вартасьцю.

Куляватыя буракі („Обэрндорфэр", „Леўтэвіцкія") добра зносяць перасаджваньне, а дзеля таго карысна іх садзіць расадай, „Экэндорфы", „Ідэалы" маюць вальцаваты корань і ў ім знаходзіцца трохі больш бялка, чым у іншых, але за тое шмат вады і замала цукру. Ёсьць іншыя сарты, як Мамут, паўцукровыя Вільморына і Вэйбуляды інш., якіх карэньне даюць шмат масы (параўноўваючы сушаныя) і цукру. Ёсьць адмены, якія зьяўляюцца сярэднімі паміж буракамі

багатымі на бялок і буракамі багатымі на сушыню і цукар. Да такіх належаць: Лойтэвіцкія, Обэрндорфскія і інш.

У Ўсходняй Беларусі было выпрабавана шмат сартоў буракоў і аказалася, што прыдатнымі амаль не для ўсяе Б. С. С. Р. ёсьць сарты буракоў—Эксцэльсіор чырвоны і жоўты, і Барэс цыліндрычны.

С. А.

---

# Кароткія прыпамінаньні гаспадару на веснавы сэзон.

Як толькі пачне з поля зганяць сьнег, селянін павінен скіраваць усю сваю ўвагу на поле і сенажаці, і быць прыгатаваным да веснавых працаў.

Перш за ўсё трэба пастарацца, каб на азімых пасевах ня было лёдавае скарынкі Пад лёдам расьліны задыхаюцца — збажына выправае. Змагацца з гэтым можна разьбіваючы лёд бараною, праяжджаючы кутымі коньмі і т. пад. Трэба таксама зьвярнуць увагу, каб на пасевах не затрымлівалася вада. Вадасьцечныя барозны і раўкі трэба паправіць і ачысьціць. Калі азіміна за зіму так, ці іначай пашкоджана (вымерзла), то можна часткова памагчы пасеву прыкачваньнем пакатком (вальцам) і баранаваньнем. Работы гэтыя, асабліва прыкачваньне, павінны быць праведзены вясною што найраней. Чым балей падлегла азімае вымерзаньню, тым раней мусімо пасьпяшыць з яго прыкачваньнем. Жыта звычайна толькі прыкачваецца. Пашкоджанай пшаніцы найбольш карысьці можа прынясьці раньняе баранаваньне. Пшаніцу, калі яна пераzімавала і добра, трэба энэргічна баранаваць, толькі трохі ў пазьнейшую пару, калі зямля ацяплее. Жыта можна баранаваць толькі на цяжэйшых глебах і то лёгкаю востраю бараною.

Добрую карысьць дае падмацаваньне вясной слабых азімых пасеваў штучнымі азотнымі гнаямі. Для гэтае мэты добра надаецца пад жыта салетрак і нітрафос, а пад пшаніцу—салетрак і азатняк.

Вялікую ўвагу трэба таксама зьвярнуць на падсяўныя расьліны, каб у час яны былі падсеяны. Сэрадэля падсяваецца загадзя, калі жыта пачынае рухацца (мяняе колер). На пяскох трэба падсяваць сэрадэлю як найраней. Падсеянае насеньне трэба прыкрыць лёгкаю востраю бараною. Без баранаваньня можна падсеяць сэрадэлю толькі тады, калі глеба яшчэ вільготная і ўрадлівая. Пры падсяваньні сэрадэлі, або пры чыстай яе сяўбе, часта карысна бывае поле пагнаіць каінітам.

На грунтах мацнейшых лепей падсяваць сэрадэлю ў сумешцы з хмялёваю люцэрнаю.

Пад ярыну трэба зачаць прыгатаўляць глебу таксама загадзя, але ніколі ня трэба парушаць глебу, калі яна яшчэ мокрая. Як толькі ральля з большага прасохне, тады варта яе паверхню араўняць валакою (за валаку можа паслужыць простая дзеравяная рама, або колька дзеравяных брускоў злучаных між сабою). Калі паверхню

ральлі не раўняць загадзя, то вытыркаючыя над паверхняю скібы вельмі перасохнуць і потым іх цяжка разьбіць пры баранаваньні, падругое, зраўнянная паверхня меней выпароўвае вільгаці.

За якісь час, калі глеба балей прасохла, пушчаецца барана Пры двухразовай ворцы ўвосені для належнае апрацоўкі глебы пад яравыя, звычайна хапае аднае бараны. На больш зьлёгшыхся глебах можна пусьціць культыватар або спружыноўку. Вясеньняе-ж воркі трэба наагул унікаць, каб не перасушыць глебу.

Разумныя гаспадары аруць вясною толькі ў выняткових выпадках, калі трэба заараць гной, або, калі пасьля зімы глеба аказалася вельмі зьлітай.

Што тычыцца сяўбы, то звычайна спачатку сеюць стручковыя— потым каласовыя і нарэшце асыпныя. Але такога парадку ня трэба трымацца, як правіла. Калі поле належна абсохла і гатова для сяўбы, то трэба на ім і зараз-жа сеяць тую расьліну, якая паводле севазвароту мае быць засеяна і не зважаць на тое, што ранейшым пасевам будзе ў нас збажына ці асыпныя.

У добра ведзяных гаспадарках пасевы ярыны прыкачваюцца пакатком (вальцам) амаль што заўсёды. Прыкачваньне агулам кажучы лічыцца карысным. У залежнасьці ад таго, калі яравая сяўба праведзена, прыкачваюць або зараз-жа пасьля яе, або трохі пазьней, калі ярына ўзойдзе. Калі з сяўбою спазьніліся і сеем у сухую зямлю, то карысна зараз-жа па сяўбе прыкачаць глебу, каб даць магчымасьць прыступу вады да зярнят з глыбейшых пластоў глебы. Аднак часта бывае, асабліва на глебах клейкіх, што на прыкачанай паверхні глебы пасьля дажджу лягчэй зьяўляецца скарынка, а дзеля гэтага, звычайна прыкачваюць пасьля таго, як ярына ўзойдзе. Чым глебы лягчэйшыя, тым трэба цяжэйшы пакаток.

Далейшым важным мамэнтам пры даглядзе вясеньніх пасеваў— гэта нішчэньне скарынкі на пасевах. Пасьля дажджу часта зьяўляецца скарынка на паверхні свежа засеянага поля, якая потым засыкае і не дае прарастаючым расьлінкам выбрацца на паверхню. Расьлінкі душацца і гінуць. Нішчыць гэту скарынку можна лёгкай вострай бараною або пакатком. Калі яшчэ насеньне не прарасло або пачало прарастаць, то можна скарынку зьнішчыць лёгкаю бараною. Ня будзе шкоды для прарастаючых расьлінак, калі баранаваньне правядзём не задоўга па дажджы, пакуль глеба яшчэ мяккая. У пазьнейшы час, калі расьлінкі праб'юцца аж да паверхні і далей ня могуць расьці, дзякуючы скарынцы, тады трэба пасеў прыкачаць зубатым пакатком, або і гладкім, які колькі разаў абкруціць ланцугом.

Барануецца яшчэ ярына і пасьля таго, як тая адрасьла, калі зьявіцца скарынка. Аднак, баранаваньне павінна быць праведзена асьцярожна.

Апрача вышэй апісаных выпадкаў карысна баранаваць вясною мурожныя сенажаці і чырвоную канюшыну. **Т. С.**

# ПЧАЛЯРСКІ АДДЗЕЛ.

Пад рэдакцыяй старшыні Бел.
Каапэратыўн. Т-ва „Пчала“
Людвікі Войцікавай.

## Аб краінскіх пчолах.

Вельмі цікавыя весткі аб шэрай краінскай пародзе пчол дае Р. Д. Нікольсон, пчаляр з Манітобы, Канада. У працягу трох гадоў ён адначасна трымаў краінскія і італіянскія пчолы і пераканаўся, што першыя ўжо не такія „закаранелыя“ раеньнікі, як аб іх кажуць, як сярод тых, так і сярод другіх здараюцца сем'і склонныя да раеньня. Адна з яго краінскіх сем'яў, з аднэй і тэй самай маткай, за тры гады не дала ніводнага рою. Да сілы гэтыя пчолы даходзяць заўсягды першымі, дзякуючы шпаркаму расплоду нават і пры неадпаведных умовах. Сэлекцыя магла-б стварыць з гэтых пчолаў новую вельмі добрую пароду.

У 1928 г. у яго было 20 сямей гэтае пароды, ды ён выпісаў яшчэ дзесяць раёў такіх самых пчол з Тэксасу, якія былі ім атрыманы ў ліпні. Ад старых сямей за сэзон ён дастаў у сярэднім па 104,3 кг, мёду з вульля і дзесяць раёў. Выпісаныя далі па 37,2 кг. мёду, ня гледзячы на іх познае прысланьне. Для ўсіх сямей, апрача таго, было даволі астаўлена мёду на зіму. Пчалярствам ён займаецца пабочна і калі-б другая праца не адцягвала яго, дык мёдазбор быў-бы значна большы.

Паміма іх здольнасьці быстра даходзіць вясной да сілы, дзякуючы пладавітасьці іх матак і добрае якасьці, як зьбіральнікаў нэктару, ёсьць яшчэ адна прычына, зрабіўшая Нікольсона прыхільнікам гэтых пчолаў, ласьне, іх надзвычайная лагоднасьць. З краінскімі пчоламі ён працаваў у такія дні, у якія да італіянскіх і прыступу ня было. Гэта было асабліва важна для яго, меўшага вельмі мала часу для работы на пчальніку.

Ад краінскіх пчолаў лепшыя вынікі бываюць у большых вульлях. Свае пчолы ён трымаў у 9 рамкавых вульлях Дадана, але быў перакананы, што яны лепш працавалі-б у 11 рам. Для кожнай сям'і, паводле Нікольсона, найменш трэба пяць глыбокіх надставак. Пры добрай вэнтыляцыі і зацяненьні ад сонца, хаця-б у час паўдня, а таксама пры захаваньні іншых вымогаў рацыянальнага пчалярства, пчолы гэтай пароды працуюць зусім добра і рэдка раяцца.

Калі-б краінскім пчолам, кажа ён у канцы, удзелялася толькі-ж увагі і тварылася-б сярод іх такая самая сэлекцыя, як сярод італіянскіх пчолаў, дык іх добрая якасьць атрымала агульнае прызнаньне з боку пчаляроў паўночных краёў.

# Дагляд пчол у сакавіку.

## Развальненьне (панос).

Кожны момант у жыцьці пчол мае вялікае значэньне. Пчаляр аб гэтым добра мусіць памятаць, каб той ці іншы недагляд не пацягнуў за сабою яшчэ большага клопату, а затым і стратаў. Цяперашні момант, г. з. апошні месяц і тыдні зімы, таксама вымагае асаблівай увагі пчаляра ды ў пэўных выпадках і працы. Часта бывае, што пчаляр, агледзіўшы пчолы з восені і заставіўшы дастатачна мёду ў вульлёх, супакойваецца аж да вясны, пакуль пчолы ня стануць вылятаць з вульля па корм для дзетак. Цешыцца пчаляр, калі ўва ўсіх вульлях пчолкі вясёлыя і жвава лётаюць то ў вулей, то з вульля. Наадварот, хмурны ён бывае, калі з некаторых часта нават з палавіны ўсіх вульлёў пчолкі не вылятаюць, бо ўсе яны памёрлі ці то ад голаду, ці то ад холаду.

Чаму гэтыя сем'і памёрлі, што трэба зрабіць, каб папярэдзіць сьмерць іх?

Шмат бывае прычынаў сьмерці пчаліных сем'яў, але за малымі выключэньнямі, яны, г. з. прычыны, зьяўляюцца віной самога пчаляра, яго непрактычнасьці, нязнаньня жыцьця пчол або й нядбайнасьці.

Між іншым пчолам можа зашкодзіць холад, калі благія і няцёплыя вульлі, а пчолы зімуюць на дварэ. Але аб гэтым будзем гутарыць больш падрабязна ў свой час — увосені. Цяпер-жа, калі канчаецца ўжо зіма і на дварэ становіцца што раз цяплей, як раз можа пашкодзіць ня холад, а гарачыня ў вульлі. Ад чаго-ж можа быць горача ў вульлі?

Калі вулей цёплы, ды ў ім вялікая сям'я, а гняздо ў рамовых вульлях малое, на рамках шасьці—сямі ды вылеты звужаны, то ў вульлі можа быць горача. Гарачыня-ж у вульлі ўзімку больш шкодная, як холад.

Ад гарачыні пчолы становяцца неспакойнымі, моцна гудзяць ды вылятаюць на двор, адкуль ужо не вяртаюцца назад у вулей, а падаюць на сьнег і гінуць. Ад гарачыні можа быць яшчэ большая бяда—гэта развальненьне жалудка. Справа ў тым, што пчолы праз усю зіму не спаражняюцца. Значыць, к канцу зімы жываты іх перапаўняюцца і, калі ў вульлі бывае горача, то зьмест брушка робіцца радзейшым, брушка надуваецца, пчала робіцца неспакойнай, гудзіць, брудзіць рамкі і сьценкі вульля, або вылятае на двор, ці выходзіць у вылет і тут спаражняецца, але адначаста і замярзае.

Калі гаспадар не агледзіцца ў свой час і гэты непарадак у вульлі прадоўжыцца, то моцна можа пашкодзіць сям'і. Што-ж трэба рабіць у гэтым выпадку? Калі будуць сьцьверджаны вышэй паданыя зьявы, гэта значыць, што ў вульлі горача, то трэба крыху ахаладзіць гняздо. А гэта можна зрабіць такім спосабам. Перш за ўсё трэба расшырыць вылеты, а падругое вымясьці з вылетаў няжывыя пчолы, каб свабадней магло прахадзіць паветра ў вулей. Калі-б і гэтыя меры не памаглі, то трэба падняць падушку над рамкамі і крыху падняць

стрэшку. Пасьля гэтага гняздо ахалодзіцца, пчолы паспакайнеюць і ня будуць вылятаць з вульля і гінуць.

Калі-ж гэтай бядзе пчаляр не зарадзіць у свой час, або спозьніцца, то нават можа згінуць цэлая сям'я: ад гарачыні пчолы будуць лазіць па ўсім вульлі, брудзіць і гняздо і сьценкі вульля, будуць ападаць на халоднае дно і качанець, будуць вылятаць на двор і таксама гінуць. А ўсё гэта разам узятае моцна аслабіць сям'ю або зусім яе зьнішчыць.

Я. Шнаркевіч.

## Мядовыя расьліны ў шматпольнай гаспадарцы.

— Присутнасьць тае ці іншай мядовай расьліны ў шматпольнай гаспадарцы данай ваколіцы будзе перадусім залежыць ад таго, якая расьліна знойдзе там найлепшыя варункі і найлепш аплаціць прадукцыю.

— У інтэнсыўнай гаспадарцы не павінна быць пустуючай, „адпачываючай" зямлі, дзеля гэтага папар абсяваецца рознымі мяшанкамі, найчасьцей даючымі толькі адпаведную карысьць.

— І вось тут мы павінны выбраць сабе карысную мядовую расьліну, якая палепшыць зямлю, дасьць добры збор мёду і насеньня.

— Гэтакай расьлінай зьяўляецца белы баркун (Melilotus alba), які часта расьце ў нас дзіка.

— Апошнія досьледы амэрыканцаў паказалі наступнае.

— Як папярэднік збожжа, баркун, паляпшаючы зямлю, мае аграмадную перавагу над другімі матыльковымі расьлінамі, бо мае даволі грубыя і даўгія карані, на якіх знаходзіцца шмат больш бактэрыяў вырабляючых азот, чым на карэньнях канюшыны, ён ўсецэла замяняе навоз.

— Як расьліна кармовая баркун ня ўступае канюшынам. Баркун—адна з найлепшых мядовых расьлін. А дзеля таго, што яна належыць да расьлін крыжуючыхся то, дзякуючы прысутнасьці пчол, дае высокі ўраджай насеньня.

— У апошнія часы амэрыканцы выгадавалі баркун аднагадовы, які дае больш сена і насеўку, чым старая двухгадовая форма.

— Такім чынам, белы баркун зьяўляецца расьлінай вельмі карыснай, як для земляроба і жывёлагадоўцы з аднаго боку, так і для пчаляра—з другога.

З вышэй сказанага відаць, што пры помачы пчалы і адпаведнай гаспадарскай расьліны можна шмат пабольшыць ураджайнасьць свайго поля. Такім чынам, пчала зьяўляецца памочнікам чалавека ў яго барацьбе за павялічэньне ўраджайнасьці поля.

У гэтым напрамку мы павінны былі-б насьледаваць амэрыканскіх фэрмэраў, якія плацяць пчалярам вялікія грошы за кожны вульлей пастаўлены пчаляром на іх полі падчас красаваньня засеянай на ім расьліны.

— У гэтым няма нічога дзіўнага, бо даўна ўжо стала нязьбітай праўдай, што пчала шмат большы дае даход апыляючы с.-гаспадарчыя расьліны і гэтым павялічваючы ўраджай насеньня, чым даючы пчаляру мёд і воск.

па Л. Е. Арэнсу.

# Наша пчалярства.

Кончыцца цяжкая для ўсяго жывога зіма і надыходзіць вясна —час абуджэньня ад даўгога як-бы сна. Што раз сонейка прыгравае сільней, усюды прыкмячаецца ажыўленьне. Пчаляр часьцей адведвае пчальнік і даўжэй затрымліваецца каля вульлёў. Там паўстаюць у яго розныя пляны і думкі аб стане і лёсе кожнагг вульля: а ці добра перазімуе, а ці ня хопіць мёду, а ці ня будзе бязматачнік і г. д. і г. д. Практычны і руплівы пчаляр усякай бядзе ў свой час зможа зарадзіць і страты на яго пчальніку заўсёды бываюць меншыя. Горш бывае ў пчаляра непрактычнага, а калі пчаляр і непрактычны і нядбалы, то ў яго—бывае і зусім дрэнна. У такога пчаляра пчолы гінуць і ад голаду, і ад холаду, і ад нападу адных на другія, ды ў выніку ўсяго гэтага заўсёды бывае і меншы збор мёду. Ґэтакі пчаляр паклікаецца толькі на Бога ды наракае на сваю „нешчасьлівасьць“. А ўсім ведамая прыказка кажа: „На Бога спадзявайся, а сам рук не апускай“. А калі ў каго добра вядууцца пчолкі, то часта кажуць, што гэты пчаляр знаецца з нячыстай сілай, якая яму памагае, або ведае нейкі сакрэт, дзякуючы якому пчолкі яго добра маюцца, г. з. і рояцца і даюць шмат мёду. Але сьвет навукі разьбівае цёмныя пагляды нашай люднасьці, для шмат каго адчыняюцца вочы ды што раз больш пчаляроў пераконваецца ў тым, што для пасьпеху ў пчалярстве патрэбна, і веда, і ўменьне і праца.

Даўней, калі веда і кніжкі пра пчалярства ня былі так распаўсюджаны, дык сапраўды ўвачох цёмных людзей нейкім ведзьмаром выглядаў той руплівы пчаляр, які мо сам праз сябе або праз кніжку зразумеў, як трэба даглядаць пчолы ды мець ад іх карысьць і пацеху.

У часе сусьветнай вайны, у нашым краі, праз які праходзіў фронт, моцна пацярпела пчалярства: пчальнікі былі зьнішчаны так, што і сьледу ад іх не асталося; сотні пчаляроў мусілі пакінуць ня толькі пчальнікі, а нават і хаты ды выяжджаць на некалькі гадоў на чужыну; у вёсках прыфрантовых пчальнікі таксама былі зрабаваны, пчаляры былі ўзяты ў войска і г. д.

Пасьля вайны разам з агульнаю адбудоваю краю, пачалі адбудоўвацца і пчальнікі.

Замілаваньне беларуса да пчалярства, унасьледаванае ад слаўных нашых прэдкаў, перамагло ўсякія перашкоды і цяпер ужо шмат паўстала новых пчальнікоў побач з адбудаванымі старымі. І тут былі зроблены аграмадныя высілкі: трэ' і хату збудаваць, трэ' было знайсьці і купіць пчолы або адшукаць іх у лесе ці ў вакопах, дзе яны схаваліся ад разбураючае сілы ў часе ваенных падзеяў.

На зьмену старых пчаляроў прышлі новыя з маладога пакаленьня, якія захопліваюцца пчалярствам, бачаць у пчалярстве падмогу ў сваім гаротным малазямельным жыцьці. Гэтыя пчаляры самі ўжо шукаюць веды і кніжак пра пчалярства, рады паслухаць гутаркі аб пчалярстве ці прайсьці курсы, але, на жаль, ня ўсюды ёсьць практычныя ідэйныя пчаляры, якія на мясцох памаглі-б сваім меншым братом.

Вось жа, каб памагчы сваей бядзе, пчаляры мусяць памагаць адзін аднаму на мясцох, дзяліцца між сабою ведаю і ўступіць у сябры „Белар. Коопэратыўнага Таварыства „Пчала“, якое заўсёды прыдзе на помач усім, чым можа.

Я. Шнаркевіч.

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

## Прыняцьце бюджэту.

Галоўным здарэньнем у дзяржаўным жыцьці Польшчы за апошні месяц, трэба лічыць прыняцьце парлямэнтам бюджэту на бюджэтны год—1931/1932. Бюджэт збалянсаваны ў агульнай суме **2 мільярд. 857 мільён.** кругла, — навет з невялікай надвышкай даходаў над выдаткамі. (?) Аднак апазіцыя ў часе дыскусіі ўсьцяж даводзіла нерэальнасьць такога вялізарнага бюджэту, залішне цяжкога для згалеўшага ад крызісу краю.

Пры галасаваньні бюджэту былі адкінены ўсе папраўкі, прапанаваныя апазіцыяй. Галоўныя з іх—аб зьмяншэньні дыспазыцыйнага фонду мін. замежн. спраў—на 2 мільён. зл., аб скасаваньні цалком дыспазыцыйных фондаў міністраў ваеннага й унутр. спраў, аб павялічэньні выдаткаў на будову школьных гмахаў, аб павялічэньні на 25 міл. фонду дапамогі безработным і інш.

З другога боку — прыняты былі ўсе рэзалюцыі Б. Б., у тым ліку—в. цікаўная для беларусаў рэзалюцыя, заклікаючая ўрад, каб—„пры выканьні бюджэту—задаволіў справядлівыя жаданьні й патрэбы грамадзкіх арганізацыяў украінскіх і беларускіх“...

7. III. разглядаліся бюджэты мін. земляробства і мін. зямельных рэформаў. Дакладчык бюдж. мін. земляробства сьцьвердзіў катастрафічны стан сельскай гаспадаркі ў Польшчы. Ён трэбаваў, каб урад арганізаваў лепш збыт краёвых прадуктаў земляробства на краёвым і замежным рынках.

У часе дыскусіі было сьцьверджана, што агульная сума доўгу, якая ляжыць на сельскай гаспадарцы ў Польшчы, даходзіць да мільярда злотых!

Пры разглядзе бюджэту мін. зям. рэформаў міністар Казлоўскі абяцаў прыняць меры, каб „аздаравіць гэтую галіну дзяржаўнай гаспадаркі“. Падчыркнем тут, што польскія сялянскія партыі (апазыцыйныя!) пры гэтым ізноў і ўсьцяж дамагаліся новых „дапамогаў“ асаднікам на нашых „Крэсах“...

Наагул Сэнат прымаў бюджэты ўсіх міністэрстваў у лічбах, апрацаваных і прынятых Соймам.

Але 9. III. мін. фінансаў, сам укладаўшы і ўнёсшы ад імя ўраду бюджэт у парлямант, раптам выступіў у Сэнаце з вялікай прамовай, у якой сам сьцьвердзіў нерэальнасьць прынятага ўжо Соймам бюджэту, заявіўшы, што „пэсымісты, можа, маюць рацыю, калі цьвердзяць, што з краю ня ўдасцца спагнаць даходаў больш, як на паўтара мільярда злотых“!.. Такім чынам—сам мін. спадзяецца недахопу ў 350 мільён. злотых! Сам міністар сьцьвердзіў яшчэ, што апроч таго, прыдзецца пакрыць яшчэ і недахоп ці перарасход—у 50 мільён. злотых—і ў бюджэце бягучага году... Такім чынам урад будзе сам рабіць розныя абмяжаваньні ў выдатках, дый зьвернецца ізноў да парляманту, калі патрэбна будзе знайсьці новыя крыніцы даходаў і т. д...

Такі парадак аднак-жа ня можа быць прызнаны нармальным.

10. III. Сэнат прыняў бюджэт блізу цалком у лічбах Сойму.

## Зацьверджаньне Соймам 2-х трактатаў з Нямеччынай.

11. III. Сойм зацьвярдзіў гандлёвы трактат Польшчы з Нямеччынай і другі трактат, яшчэ больш важны, — так зван. „ліквідацыйны“, ліквідуючы розныя ўзаемныя споры і разрахункі абедзьвюх дзяржаваў, пераважна ў галіне правоў і маемасьцяў немцаў у заходніх абшарах Польшчы. Трактат гэты вельмі выгадны для Нямеччыны, прыняты Соймам — „з меркаваньняў палітыкі міру і паразуменьня з Нямеччынай“, — ня гледзячы на вострую апазыцыю — пераважна з боку эндэцыі.

## Справа перагляду канстытуцыі.

3. III. клюб Б. Б. унёс у Сойм зноў свой стары праект зьмены канстытуцыі, унесены ім яшчэ ў папярэдні Сойм на пачатку 1929 г.

Праект гэты галоўнай мэтай мае павялічэньне ўлады Прэзыдэнта Рэспублікі.

5. III. пачалася праца канстытуцыйнай камісіі над праектам ББ, які большасьцяй Сойму—проці галасоў апазыцыі—быў прызнаны падставай для дыскусіі й далейшай апрацоўкі.

## Перагаворы Блёку з украінцамі.

Газэты паведамілі аб тым, што паміж кіраўнікамі Б. Б. і ўкраінскімі павадырамі адбыліся ці пачаліся перагаворы аб узаемным паразуменьні. Як пісалі газэты, перагаворы выкліканы бліжэйшым чынам... маючай стаць на парадку дня наступнай—маёвай—сэсіі Рады Лігі Нацыяў справы скаргаў украінскага насяленьня Галічыны на так званую „пацыфікацыю“.

## Трагэдыя беларускага народу ў СССР.

У радавай Беларусі „новы курс“, — новая „генэральная лінія“ Сталіна—трыумфуе па ўсім фронце. Адзін па адным — блізу ўсе найвыдатнейшыя дзеячы беларускага нацыянальнага адраджэньня, нават самыя радыкальныя барацьбіты—рэвалюцыянеры за сацыяльнае вызваленьне беларускаго народу — папалі ў апалу і сядзяць у падвалах „чрэзвычаяк“. Мала таго, што чэкісты маюць намер расправіцца з імі па-свойму, яны змушаюць тых беларускіх дзеячоў, якія астаўлены пакуль што на волі, каб тыя трэбавалі публічна—кары сьмерці для тых сваіх таварышоў супольнай барацьбы й справы, якія пасаджаны ў вастрогі!... Такога зьдзеку над людзкасьцяй, такога катаваньня чалавечага сумленьня ня здолелі вынясьці лепшыя з іх. І вось, толькі што стары барацьбіт, адзін з найвыдатнейшых культурна-асьветных дзеячоў Сав. Беларусі, Ігнатоўскі налажыў на сябе рукі, а першы беларускі песьняр—сонца нашай паэзіі — Янка Купала зрабіў замах на свае жыцьцё, распароўшы сабе нечым вострым бруха... Ня выратавала праф. Ігнатоўскага нават тое, што ён быў першым міністрам, ці камісарам сьпярша земляробства, пасьля асьветы ў Радавай Беларусі, што ён аснаваў і арганізаваў Беларускую Камун. Партыю (!), што ён быў прэзыдэнтам Белар. Акад. Навук і г. д. Ня гледзячы на гэта, і ён папаў у апалу, як „дрэнны каму-

ніст“, а галоўнае,—як добры, залішня добры! — культурна-асьветны працаўнік на ніве Беларускай Культуры!... Бо-ж як раз гэта—культура, вось што—не дасмаку тым, хто цяпер узяў рашуча ўладу ў Радавай Беларусі ў свае рукі!..

Пратэсты проці гэтага катаваньня беларускай культуры і яе працаўнікоў ідуць з усіх концоў Заходняй Беларусі.

## Японска-радавыя стасункі.

Стасункі паміж Японіяй і Радамі ў апошні час пачалі рашуча псавацца. Камуністычная акцыя ў Карэі, Манчжурыі й Манголіі, падтрымліваная ўсімі сьродкамі Масквой, страшэнна абураець Японію, у якой усе больш папулярна ваенная партыя, трэбуючая ад ураду рашучых крокаў проці бальшавікоў.

## Канада і Югаслаўя забаранілі ўвоз тавараў з ССРР.

Урад Канады забараніў увоз у край тавараў з ССРР, як выпрадукаваных нявольніцкай працай. Усьлед за Канадай і Югаслаўя зрабіла такую-ж забарону, матывуючы яе выразным імкненьнем ураду ССРР зруйнаваць прамысловасьць Югаславіі і падважыць яе гандлёвы баланс.

## Морскае паразуменьне Францыі і Італіі.

Англійскаму мін. замежн. спраў Гэндэрсону ўдалося дабіцца поўнай згоды паміж Францыяй і Італіяй у пытаньні, якое яшчэ ўчора пагражала амаль не вайной паміж гэтымі вялікімі дзяржавамі. Як ведама, ані Францыя, ані Італія не далучыліся ні да Вашынгтонскай ні да Лёнданскай умовы морскіх дзяржаваў—у справе абмяжаваньня морскіх збраеньняў. Таму на апошняй канфэрэнцыі морскіх дзяржаваў у Лёндане—ў летку мінул. году—дайшло толькі да паразуменьня трох вялікіх морскіх дзяржаваў: Англіі, Амэрыкі й Японіі.

Цяпер-жа „морскае паразуменьне трох“ ператварылася ўжо ў „паразуменьне пяцёх“. А гэта варожыць добры пасьпех на тэй вялікай міжнародовай канфэрэнцыі ў справе агульнага разбраеньня, якая мае адбыцца ў канцы 1932 г.

Толькі немцы і бальшавікі не здаволены гэтым пьсьпехам Гэндэрсона.

## Пасярэдніцтва Турцыі.

Францускная прэса цьвярдзіць, што румынскі ўрад зьвярнуўся афіцыяльна да турэцкага мін. замежных спраў, каб той узяў на сябе акцыю пасярэдніцтва ў справе заключэньня між Румыніяй і ССРР „трактату аб узаемным ненападаньні“. Турэцкі мін. быццам згадзіўся. Але-ж аб гэтым пасярэдніцтве Турцыі пішуць ужо даўно, а дагэтуль ніякіх вынікаў гэтага ня відаць.

## Новы прэзыдэнт Фінляндыі.

У Фінляндыі ў канцы лютага адбыліся выбары новага прэзыдэнта, якім выбраны быў стары дзеяч па абароне фінляндскай дзяржаўнасьці яшчэ ў расейскія часы—Сьвінхувуд.

## Безрабоцьце ў Амэрыцы.

Апошняя справаздача аб'яднаньня работніцкіх прафэс. саюзаў ў Паўночн. Амэрыцы сцьвярджае, што безрабоцьце дайшло ўжо да свайго найвышэйшага роўня ў студні, а далей лічба безработных пачала спадаць. У студні было безработных 5 мільён. 870.000, а ў лютым ужо—5 міл. 770.000.

## Паразуменьне Англіі з індусамі.

У апошнім месяцы наступіў, здаецца, рашучы зварот у англійска-індускіх стасунках. Выпушчаны з вастрогу павадыр індускіх незалежнікаў Ганді—у асабістым спатканьні з англійскім віцэ-каралём Індыі—дайшоў з ім да пэўнага паразуменьня. Англія мела згадзіцца на рад трэбаваньняў Ганді, а за гэта Ганді абяцаў злагодзіць проціанглійскі рух у краі, не адступаючы аднак-жа ад галоўных пунктаў сваей праграмы—максімум: поўнага вызваленьня Індыі з-пад улады чужынцаў. Ганді згадзіўся прыняць учасьце ў новай канфэрэнцыі — сяброў індыйскага парляманту і прадстаўнікоў англійскага ураду — у справе індыйскай канстытуцыі, — але заявіў адкрыта, што і ён і індускія парлямантары патрэбуюць на гэтай канфэрэнцыі поўнага раўнапраўя для Індыі з Англіяй — у супольнай „Саюзнай Імпэрыі Брытанскай".

## Літоўская прапаганда ў Амэрыцы.

У Амэрыку паехаў ведамы літоўскі дзеяч, паходзячы з Вільні, праф. Біржышка, які мае там распачаць шырокую акцыю прапаганды—на карысьць адданьня Вільні Літве. Праф. Біржышка ўвайшоў у Амэрыцы ў кантакт з прадстаўнікамі ўкраінцаў і беларусаў, каб тыя падтрымалі яго акцыю.

Таму украінск. газэта „Свабода" ў Амэрыцы зьмясьціла заклік да ўсіх беларусаў і ўкраінцаў у Амэрыцы, каб злучыліся з літвінамі ў супольнай акцыі—за адабраньне Вільні ад Польшчы.

---

# Карэспандэнцыі.

## З Нясьвіжскага павету.

Шматлікі досьлед вучыць нас, што гаспадарчы крызіс вытрымліваюць толькі мацнейшыя, лепш арганізаваныя гаспадарчыя адзінкі. Іначай кажучы, — гаспадарчы крызіс зьяўляецца як-бы экзаменам жыцьцяздольнасьці гаспадарчых прадпрыемстваў.

У часы цяперашняга гаспадарчага крызісу вельмі пацярпела наша малочная коопэрацыя. Шмат малочных коопэратываў перастала існаваць. Але гэта ня знача, што коопэратыўная форма арганізацыі ў малочным вырабе ёсьць недасканалай і няжыцьцяздольнай. Як доказ гэтага цьверджаньня, я прывяду некаторы даныя аб разьвіцьцю коопэратыўн. малачарні ў нас у Вялікай Ліпе.

Паводле справаздачы, якая была зроблена 28. I. 31. на агульным гадавым сходзе сяброў коопэратыву, даведваемся, што коопэратыўная малачарня ў Вял. Ліпе зрабіла за 1930 год абароту на суму 37,936 злотых. За гэты год перароблена 213, 365 літраў малака, з якога выраблена 937 кіляграмаў масла. Коопэратыў лічыць 186 сяброў з 288 штукамі кароў. Капітал паявы выносіць 6007 зл.

Тым часам, як у 1929 годзе абаротны капітал выносіў толькі 19,729 зл. (за год абаротны капітал павялічыўся на 96 прац.), малака перароблена 83,569 літраў і атрымана масла 3,673 кілёграмы. Сяброў у коопэратыве налічвалася 71 з 114 каровамі.

Як бачым, коопэратыўная малачарня ў Вял. Ліпе разьвіваецца вельмі добра, ня гледзячы і на гаспадарчы крызіс.

Аб добрым росквіце коопэратыўнае малачарні ў В. Ліпе сьведчыць і наступны факт: малачарня гэта вельмі маладая (існуе толькі два гады), але ўжо настолькі ўмацавалася, што адважылася пабудаваць свой уласны мураваны будынак. Праўда, гэты будынак яшчэ ня скончаны (да зімы не пасьпелі накрыць), але ў гэту вясну, то ўжо напэўна будзе гатовы. Адным словам малачарня ў Вял. Ліпе стаіць добра і разьвіваецца.

Гаворачы аб коопэратыўнай малачарні ў В. Ліпе, хацеў-бы яшчэ сказаць, што ўсе сябры гэтага коопэратыву сьведамыя беларусы і сваю арганізацыю таксама хацелі-б бачыць зусім беларускаю. А тут прыяжджае рэвізор—паляк і так „адбарабаніў“ папольску гадавую справаздачу, што трудна было і зразумець.

Трэба, каб абавязкава быў у Вільні арганізаваны наш свой рэвізійны саюз, каб да нас на рэвізію прыяжджаў беларус і, каб гаманіў да нас панашаму—пабеларуску.

Ці-ж у нас цяпер не хапае сваіх аграномаў і інжынераў, якія-б пакіравалі справаю як трэба?! Гляньмо на ўкраінцаў,—як добра ў іх разьвіваецца коопэрацыя, аб'яднаная ў сваіх саюзах. Дык пара і нам рушыцца з мёртвага пункту.

**Коопэратар.**

# З беларускага жыцьця.

— **„Жаноцкая Справа“.** У гэтым месяцы выйшаў першы нумар бел. жаночае часопісі „Жаноцкая Справа“, Орган Аб‘яднаньня Бел. Жанчын імя Аёізіі Пашкевічанкі (Цёткі).

Часопісь дае багата парад беларускай жанчыне, а разам з гэтым найгалаўнейшую ўвагу зьвяртае на фізычнае і **маральнае выхаваньне новага пакаленьня.**

З свайго боку шчыра вітаемо ініцыятарак і супрацоўніц „Жаноцкае Справы“, узяўшых на сябе **вялікую культурную місію**, бо фізычнае і маральнае выхаваньне новага пакаленьня можа больш як што іншае набліжае нас да **Ідэалу Нацыі**.

Жадаем пасьпеху „Жаноцкай Справе“ і заклікаем усіх падпішчыкаў і прыхільнікаў „Сахі“ выпісваць для сваіх жанок і дзяўчат часопісь „Жаноцкая Справа“, а таксама заахвочваць да выпісваньня сваіх знаёмых.

— **„Заранка“.** Ізноў пачала выходзіць белар. ілюстраваная часопісь для дзецей „Заранка“. Часопісь выходзіць пад рэдакцыей нашага супрацоўніка Людвікі Войцікавай; выдавец,—„Аб‘яднаньне Бел. Жанчын”.

Першы нумар „Заранкі“ выглядае вельмі добра, як па зьместу, так і з вонкавага боку. Жадаем часопісі як найбольшага пашырэньня.

— **Лекцыі на правінцыі.** У апошнія часы адбылося рад лекцыяў на правінцыі. Гр. Ф. Акінчыць прачытаў лекцыі на тэму: „Кооперацыя і яе значэньне для жыцьця працоўных“ у такіх мяйсцовасьцях: у Новым Сьвержані 15 лютага, у Яросьмішках, Валожынскага павету 22 лютага і ў Смаргонях 1 сакавіка.

Інж.-аграном С. Бусел прачытаў лекцыі на тэму: „Вясковая гаспадарка і сел.-гаспадарчы“ крызіс. Апошнія лекцыі былі прачытаны ў Будславе 22 лютага; ў Гародзьках, Валожынскага павету 1 сакавіка.

— **Сьвяткаваньне Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі.** Віленскае бел. Грамадзянства 25 сакавіка ўрачыста адсьвяткавала 13 ўгодкі Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі.



Адказны Рэдактар: М. ІЛЬЯШЭВІЧ. Галоўны кіраўнік: інж.-агр. С. БУСЕЛ.

Выдавец: Цэнтральны Саюз Бел. Культ.-Прасьв. і Гаспад. Арганізацыяў і Інстытуцыяў.

# „ЗАРАНКА“

*Ілюстраваная часопісь для дзяцей.*

*Выходзіць кніжкамі.*

ПАДПІСНАЯ ЦАНА З ПЕРАСЫЛКАЙ:

*3 кніжкі — 1 зл. 15 гр.*
*Адна кніжка — 45 гр.*
*Заграніцу ўдвая даражэй.*

*Падпіска прыймаецца з кожнага месяца.*

*Адрэс Рэдакцыі і адміністрацыі:*

*Вільня, Віленская вул. № 8, кв. 3*